Да 50 працэнтаў жылых дамоў у Беларусі будуць узводзіцца ў энергаэфектыўным выкананні.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
*Якуб КОЛАС*

№ 74 (4429)

20 верасня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## «Я падпісаўся б, але твар у прэтэндэнта нейкі нездаровы...»

*Карэспандэнт «Народнай Волі» пацікавіўся, як ідзе збор подпісаў у цэнтры Мінска.*



З самага ранку сябры ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў на дэпутацкі мандат подпісы амаль не збіраюць, таму пратэсціраваць іх актыўнасць вырашыў у абед. Участак выбіраю такі, дзе звычайна і збіраюцца подпісы.

Найперш накіроўваюся да ГУМа. Ля ўваходу ў магазін падчас выбарчых кампаній заўсёды стаяць пікеты, але гэтым разам – пуста. У такі час нікога гэтае «хлебнае» месца не зацікавіла, можа, прыйдуць пазней?

Рухаюся ўздоўж праспекта і ў рэшце рэшт знаходжу першы пікет – на цэнтральным ўваходзе Парку імя Горкага. Вольга Чарняк, якая збірае подпісы за Ірыну Халіп – журналістку і жонку экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава,– знаходзіцца ў намёце адна.

– Мой муж таксама вылучыў сваю кандыдатуру, так што ў нас уся сям'я сёння занята перадвыбарнымі клопатамі, – кажа Вольга.

Дзяўчына адзначае, што звычайна пікеты праходзяць да 18.00, а пасля ўсе разыходзяцца збіраць подпісы па кватэрах.

– У дзень мне патрэбна сабраць каля 50 подпісаў, і прыкладна столькі атрымліваецца, – дадае мая суразмоўца.

Відаць, Парк Горкага – не самае ўдалае месца для збору подпісаў. За 20 хвілін Вольга не толькі не атрымала ніводнага аўтографа, але ніхто наогул нават не наблізіўся да намёта.

На плошчы Якуба Коласа – яшчэ адзін пікет, акурат ля ЦУМа. Подпісы збіраюць актывісты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» – за Алеся Круткіна.

Трэба сказаць, што тут карціна весялейшая, бо народ падыходзіць да століка, каб паставіць подпіс, і проста ўступае ў дыялог.

– Шкада, але пашпарта з сабой няма, – кажа пенсіянер, які прадстаўляецца Аляксандрам Маркавічам. – Праўда, мне абсалютна зразумела, што гэты таварыш не патрапіць у парламент. У яго ж біяграфіі напісана, што ён 26 разоў затрымліваўся і прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці.

– Вы ведаеце, якія ў нас суды? – стараюцца схіліць мужчыну на свой бок актывісты.

– Думаю, што ўжо ёсць кандыдат, якога прызначаць дэпутатам, таму ў гэтага маладога чалавека шанцы трапіць у Палату прыблізна такія ж, як у мяне заўтра адзначыць 20-годдзе, – залівіста смяецца дзядуля.

На развітанне Аляксандр Маркавіч прызнаецца, што чатыры гады таму ён галасаваў за нейкага дэпутата, але за каго – не памятае. І да гэтага часу не ведае, хто тады перамог.

У гэты час за Алеся Круткіна падпісваецца Яўгенія Іосіфаўна Аляксеева. Кажа, што рэгулярна чытае «Народную Волю» і галасуе за дэмакратычную Беларусь.

– Я б, можа, таксама падпісаўся, але нейкі ў гэтага прэтэндэнта твар нездаровы, – далучаецца да пікетнай тусоўкі «палітычны аглядальнік» мясцовага разліву. – Ён жа ў акулярах, «батанік». Вады не хапае ў арганізме, куды яму ў дэпутаты? Палітыкай павінны займацца толькі здаровыя людзі.

Праз хвіліну яшчэ адна жанчына вырашыла паставіць подпіс за Алеся, але ў хуткім часе высвятляецца, што яна з другой акругі, а значыць, не мае на гэта права.

Падыходзяць і два маладыя чалавекі, адзін з іх з гітарай. Кажуць, што ім падабаецца праграма Круткіна, але, зноў-такі, яны не маюць права пакінуць подпіс, бо зарэгістраваны ў іншым раёне Мінска.

*«За гадзіну за Алеся прыкладна 7 чалавек падпісаліся, а ўчора было 25»,* – інфармуюць мяне зборшчыкі подпісаў.

Па дарозе на Камароўскі рынак стаіць пікет Веранікі Мішчанка, якая вылучыла сваю кандыдатуру ў парламент, але збірае подпісы не за сябе, а за... Мікалая Статкевіча.

– Паколькі сапраўдных выбараў няма і не будзе ў бліжэйшы час, то мы ў гэтым цырку ўдзельнічаць не будзем, – тлумачыць мне фармальная прэтэндэнтка ў дэпутаты. – Таму парламенцкую кампанію і пікеты па зборы подпісаў вырашылі выкарыстаць, каб Мікалай Статкевіч змог удзельнічаць у наступных прэзідэнцкіх выбарах. Нам трэба назбіраць за яго 10 тысяч галасоў. І сёння ўжо 30 чалавек падпісаліся.

Пляцоўку ля Камароўскага рынку традыцыйна называюць клондайкам для зборшчыкаў подпісаў, але ў 14.00 я не знайшоў тут ніводнага пікета. Як не змог знайсці ў цэнтры горада ніводнага пікета па зборы подпісаў за праўладных прэтэндэнтаў.

На той самай пляцоўцы ля Камароўкі гучна спяваў хлопец, акампаніруючы сабе на гітары, і народ даволі актыўна кідаў яму ў шапку капейкі. Людзі падыходзілі да маладога чалавека з куды большай ахвотай, чым да ўдзельнікаў палітычнай кампаніі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

*Фота аўтара.*

РЭГІЁН

## Пікет пад бел-чырвона-белым сцягам

Многія жыхары Гомеля прызвычаіліся ўжо да бел-чырвона-белых сцягоў, што з'явіліся ў апошнія дні на прасторнай пляцоўцы каля ўнівермага. Тут вядзе збор подпісаў ініцыятыўная група па вылучэнні кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Уладзіміра Няпомняшчых.**

На раскладных стэндах – біяграфічныя звесткі прэтэндэнта. Уладзімір – былы афіцэр міліцыі, цяпер пенсіянер МУС. Працяглы час займаўся індывідуальным прадпрымальніцтвам, пакуль не заціснулі падаткамі і праверкамі. Удзельнік палітычных кампаній і пратэстаў прадпрымальнікаў з 2001 года. За гэта ўлады каралі яго адміністрацыйнымі штрафамі і беспадстаўнымі арыштамі.

### «У кожнага чалавека ёсць выбар»

У горадзе Уладзіміра ведаюць і як «чалавека-майку». Актуальныя палітычныя падзеі ён часцяком адлюстроўвае праз надпісы на цішотках. Вось і зараз у пагодлівыя дні Уладзімір з'яўляецца на пікеты ў белай цішотцы з своеасаблівым надпісам. Ён і на рэгістрацыю сваёй групы хадзіў у такой майцы ў акруговую Гомельскую-Цэнтральную камісію №33.

Прэтэндэнт на дэпутацкі мандат не падзяляе думкі шэрагу «канапных» палітыкаў аб тым, што трэба ігнараваць парламенцкую кампанію, паколькі сапраўдных выбараў у Беларусі няма.

– Выбараў няма, але ў кожнага чалавека ёсць выбар. Мой выбар – гэта пастаянць месяц у пікеце, пагутарыць з людзьмі. Расказаць тым, хто не разумее, што дзеецца ў нашай стабільнай і квітнеючай Беларусі. А пасля распавесці пра гэта яшчэ па радыё і тэлевізары. У іншы ж час доступу да тэлебачання і дзяржаўных газет ніхто з апазіцыйных палітыкаў не мае, – кажа Уладзімір.

*(Заканчэнне на 2-й стар.).*

ГОЛАС РЭДАКЦЫІ

## «Народную Волю» выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей!

*Мы служым не ўладзе.*
*Мы служым не партыям.*
*Мы служым не алігархам.*
*Мы служым не апазіцыі.*

*Мы служым свайму сумленню.*
*Мы служым Свабодзе Слова.*
*Мы служым Дэмакратыі,*
*якая на першае месца ставіць*
*сілу закона, а не закон сілы.*
*Мы служым Чалавеку, які мае*
*не толькі абавязкі, але і правы.*
*Мы служым Вам, шаноўныя чытачы!*
*Мы служым роднай Беларусі!*

Што і казаць, такая бескампрамісная пазіцыя патрабуе неверагодных высілкаў. Асабліва цяпер, калі «Народная Воля» перажывае цяжкія часы. Рост цэн на паперу, паліграфічныя паслугі, дастаўку газет у рэгіёны, высокія падатковыя абцяжарванні – усё гэта і многае іншае ставіць недзяржаўнае выданне ў найцяжэйшыя ўмовы.

І ўсё ж «Народная Воля» не павінна паўтарыць лёс мноства газет, якія ў апошнія гады закрыліся, зніклі з інфармацыйнай прасторы. Падтрымаць яе – пачэсны доўг усіх, хто адстойвае **ПРАЎДУ**, хто даражыць Беларуссю, хто хоча бачыць яе багатай і шчаслівай. Самы просты спосаб працягнуць «Народнай Волі» руку дапамогі – быць яе пастаянным падпісчыкам. Так і просяцца вершаваныя радкі:

**Калі хочаш лепшай долі –**
**Дапамажы «Народнай Волі».**
**У свеце ПРАЎДЫ жыць імкніся,**
**На газету падпішыся!**

Каб і ў кастрычніку Вы атрымлівалі «Народную Волю», Вам трэба да 26 верасня завітаць у любое паштовае аддзяленне ці ў спецыялізаваны пункт «Белсаюздруку» і прадоўжыць падпіску. Можна гэта зрабіць і не пакідаючы дом. Заходзьце, калі ласка, на сайт Belpress.by і праводзьце аплату праз сістэму «Расчет» (АРІП) на кастрычнік-снежань (альбо на любы тэрмін).

***Так, мы, народавольцы, хочам быць разам з Вамі, шаноўныя чытачы.***
***Разам будзем і надалей адстойваць ПРАЎДУ!***
***Разам – мы сіла!***

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## Минск бело-красно-белый

Вспомним события 1999-го.

В Москве тяжело больной Борис Ельцин едва удерживает власть. Для поддержания его популярности у окружения (коим тогда верховодил Борис Березовский) рождается идея повернуть время вспять хотя бы в виде создания мини-союза Беларуси и России. Сама не присутствовала, но, согласно легенде, Лукашенко тогда пообещали статус преемника Ельцина, место в Кремле. Как тут не загореться!..

Между Москвой и Минском согласовывается проект договора об объединении двух стран в ССР – Союз Суверенных Республик. В документе записано, что каждая из сторон сохраняет свой суверенитет. Но Союзу планируется передать внешнюю политику, оборону и безопасность, бюджетную, денежно-кредитную, налоговую системы, таможенные вопросы, энергетику, транспорт и связь... А еще единый суд, единый парламент, единый Совмин, флаг, гимн, единое гражданство...

Одновременно в Беларуси идет нейтрализация оппозиции. Умирает Геннадий Карпенко, исчезают Юрий Захаренко, Виктор Гончар, Анатолий Красовский, за решеткой оказывается экс-премьер Михаил Чигирь. Минюст объявляет перерегистрацию партий, и для получения статуса партии уже требуется не 500, а 1500 членов. Объявляется перерегистрация профсоюзов...

Сегодня хорошим тоном считается спорить на тему, являлись ли все эти события звеньями одной цепи или все происходившее в тот страшный год всего лишь совпадение, случайность. Ведь доказательств нет. Однако в 1999-м споров не было. Ощущение угрозы физического уничтожения и страны, и отдельных людей просто висело в воздухе. И белорусская оппозиция – разрозненная, дезориентированная, обезглавленная, обескровленная – сумела мобилизоваться и вывести людей на улицы.

Лозунгом тех дней стал «Радзіма і свабода». Марш свободы состоялся 17 октября 1999 года и его организаторами выступили те, кто отнюдь не питал друг к другу особо приязненных чувств – Анатолий Лебедько, Николай Статкевич, Винцук Вечёрко, Дмитрий Бондаренко.

Это была одна из самых продолжительных акций протеста в белорусской истории – марш длился около пяти часов. Это была одна из самых массовых акций протеста в белорусской истории – 40–50 тысяч человек. Это была одна из самых кровавых акций в белорусской истории – с ловушкой на улице Пулихова, где, будто специально для демонстрантов, разобрали плитку на тротуарах, чтобы под рукой были камни...

Но, по моему глубокому убеждению, именно тогда, в октябре 1999-го, белорусы де-факто подтвердили свое право присутствовать на политической карте мира, сказав «Нет!» тихой аннексии страны. И хотя в декабре 1999 года Ельцин и Лукашенко все-таки подписали Договор о создании Союзного государства, но это был уже не тот договор: никто и не вспомнил об идее создать ССР, и эйфории насчет возможности объединения уже не было ни в «Красном доме» в Минске, ни на Красной площади в Москве. Два десятилетия не было...

Но прошло 20 лет, в течение которых Договор о создании Союзного государства висел гильотиной над нашей головой. Это на самом деле большой срок. Мы с опасностью свыклись, приловчились, пристроились. Настолько обжились, что философствуем на разные темы, даже когда гильотина начала двигаться. Кулуарно и подковерно готовится новый этап интеграции Беларуси и России. Уже известно, что до подписания документов на обсуждение общественности они выноситься не будут, дабы не будоражить умы, а после подписания что-либо обсуждать будет поздно. Но мы молчим.

Не совсем молчим, конечно. Есть заявления партий, есть возмущения политиков, резкие и даже очень резкие комментарии: «не допустим», «не позволим», «возмущены»... Но делать что? Кто и что должен делать, когда гильотина начала двигаться?

Сопредседатель оргкомитета по созданию партии БХД Павел Северинец уже высказал идею проведения акции протеста. Правда, другие лидеры идею не подхватили, можно даже сказать, проигнорировали. Они ограничиваются заявлениями и комментариями. Почему?..

Обсуждаю ситуацию с одним известным политиком. Говорит: «Правильная идея. Но организацией акции надо заниматься, чтобы не получилось еще хуже, когда на защиту независимости выйдет сто человек. А Северинец не та фигура. Это же он начал развал Белорусского Народного Фронта, отколов от него «Молодой фронт»...»

И далее – по списку. Объединенная гражданская партия акцию не организует, потому что у партии нет лидера (Николай Козлов лишь исполняет обязанности руководителя). Статкевич недоговороспособен, с ним никто не будет договариваться. Движение «За Свободу» занимается «вкручиванием лампочек» – то есть решением локальных проблем в регионах. Партия БНФ «продалась и вообще ни в чем не участвует». КХП–БНФ – секта. Коммунисты – за интеграцию и в этом вопросе не сторонники акции протеста...

В общем, некому. Гильотина в виде нового этапа союзной интеграции летит нам на голову, а остановить некому. Разве что Лукашенко сам организует демонстрацию протеста. Дожили, как говорится!

Но время такое, что уже не до шуток и даже не до рассуждений. До 8 декабря – дня, когда Александр Лукашенко и Владимир Путин вновь будут что-то подписывать в Москве, осталось совсем мало времени.

«Радзіма і свабода!» – этот лозунг вновь должен зазвучать так, чтобы настроение белорусов стало понятно всем – и в Москве, и в Вашингтоне.

Получилось в 1999-м, должно получиться и в 2019-м. Вот только для этого свои амбиции политикам нужно отставить до лучших времен. Нужно прекратить это бесконечное выяснение, кто весь в белом, а кто кормится из «Красного дома», кто лучше, а кто хуже. Чтобы сохранить страну, Минск должен вновь стать бело-красно-белым. А потому пришло время садиться, договариваться, делить фронт работ и начинать кампанию мобилизации людей.

Сейчас именно тот момент, когда выяснится – оппозиция все еще есть в Беларуси или ее давно нет.

ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЕ

## Чаму вы пакінулі свой подпіс?




У Гродне ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў за вылучэнне прадстаўнікоў дэмакратычных партый кандыдатамі ў дэпутаты выставілі невялікі стэнд, на якім кожны жадаючы можа напісаць, чаму ён паставіў свой подпіс.

Не ўсе пішуць на стэндзе, але многія робяць гэта з цікавасцю. Як вынікае з запісаў, людзі ставяць подпісы дзеля таго, каб у краіне адбыліся змены, каб праводзіліся празрыстыя выбары і г.д.

Сябры ініцыятыўных груп патлумачылі «Народнай Волі», што ў выбарчай кампаніі выкарыстаюць гэтыя пажаданні, калі будуць прадстаўляць свае праграмы.

Дарэчы, пікеты па зборы подпісаў у Гродне на працягу тыдня адбываюцца выключна пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Іншых пакуль папросту не відаць. Паводле інфармацыі з сайтаў Гродзенскіх гарадскога і абласнога выканкамаў, на момант напісання гэтага матэрыялу ў Гродне на чатырох выбарчых акругах было зарэгістравана 18, а ў вобласці на 12 выбарчых акругах – 40 ініцыятыўных груп.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
20 ВЕРАСНЯ 2019 г.

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



Елена МОЛОЧКО

# Суд топором…

Можете забросать меня камнями, но в конфликте гомельского педагога из школы №15 и ученика из 4-го класса я была за учительницу сразу. Ее увольнение напоминало слишком скорую расправу: администрация школы собралась – и через час человек с 35-летним педагогическим стажем оказался на улице, пинаемый толпой. Справедливость восстановлена.

Восстановлена?

Напомню в общих чертах ситуацию тем, кто не знает подробностей скандала, хотя трудно представить, что до чьих-то ушей не дошли хотя бы отголоски конфликта, который за несколько дней разросся до государственного масштаба. Точку (от которой аж брызги и головы во все стороны полетели) позавчера поставил Александр Лукашенко, но об этом чуть позже.

Итак, учительница выругалась на четвероклассника, употребив нецензурное слово. А другой ребенок снял это на видео. Его родители (видимо, проверяя телефон ребенка, что совершенно естественно), увидели «картинку» – а она прямо-таки безобразная, потому что вырвана из контекста всего урока, – и отослали «сюжет» на местный информационный портал. И… общество взорвалось. «Оскорбила ребенка? Распни ее! – закричали люди. – Увольнение? Да это еще слабое наказание!»

А что, учительницу надо было сослать в Сибирь? Но в Беларуси нет рудников и тайги.

Ладно, шутки в сторону. Толпа всегда жестока, иначе не распяли бы Христа.

У меня другой вопрос: а что творилось в том четвертом классе, что учительница взорвалась, вышла из себя, нагрубила ребенку? Дети срывали урок. Думаете, это не под силу десятилетним ангелам? Но когда их целый класс, взвинченных своими заводилами? В любом классе есть такие «клоуны», для которых не существует авторитета учителя, которые не знают слова «нет», не подчиняются правилам. И они в какой-то момент легко подчиняют себе сверстников. Тем более кто из детей в душе не хочет выйти из-под контроля взрослого? Праздник непослушания – да он у нас в крови до конца жизни. Но с годами мы его худо-бедно научаемся контролировать. А в десятилетнем возрасте у детей начинается предподростковый период, все рефлексы, весь негатив наружу – ох, непростое время для воспитателей.

Конечно, точно восстановить течение конфликта уже не удастся никогда. Учителя камера зафиксировала, а вот безобразное поведение мальчиков – нет. Учительница говорит, что двое мальчишек взорвали дисциплину в классе, урок остановился, она попыталась утихомирить шалунов, шла с партой для другого, чтобы его отсадить, и снова услышала издевательский смех, нагнулась к ученику (парта на плече) и… Сказанула. Вырвалось непотребное слово.

Между прочим, ученику – как с гуся вода. Он не стал никому жаловаться. Да и что бы он сказал своим родителям? Я, мама, срывал сегодня урок, и, представляешь, учительница так рассердилась, что меня оскорбила за это? Конечно нет: знает кошка, чье мясо съела. Но в классе был один умненький «зритель», подозреваю, что тихоня, – тот, который включил телефон, чтобы потом посмеяться и над учителем, и над своим товарищем. Летописец, будущий блогер, наверное. Кстати, это еще один штрих к атмосфере урока – там уже шло, похоже, настоящее светопреставление, каждый делал, что хотел. И учительница не справлялась с коллективом. Профессиональный стаж за плечами огромный, но вдруг наступает момент, когда от бессилия опускаются руки. Потому и сказала: «Я пойду под суд… А тебе сейчас … будет». Ну, пусть бы прозвучало «капец»! Русский язык так богат на синонимы!.. Но в отчаянные минуты и слова слетают с языка отчаянные. Наверное, сработало подсознание, она уже чувствовала свою вину – потерю контроля над классом. И своим низким словом, конечно, сама подписала себе приговор.

И суд, который она будто накликала, состоялся. Понятно, администрация испугалась огласки. Потому что социальные сети – чудовищное оружие массового поражения – стали заходиться в экстазе: «Распни ее!» Сами-то мы, конечно, без единого греха, «чистейшей прелести чистейший образец», ни низких слов, ни подлых мыслей никогда не знали, не ведали. Но правды ради надо сказать, что половина людей стала все-таки на более взвешенную позицию – ведь конфликт был спровоцирован. И дети – цветы и радость нашей жизни – не всегда правы. С академической точки зрения учитель совершил педагогическую ошибку. Но есть еще правда жизни. И она учит, что стерильных ситуаций не бывает. Тем более справедливости не найти, когда гудит толпа и площадь. Справедливый суд – это тонкий скальпель и шелковая нить, а здесь над головой провинившегося человека уже занесли чуть ли не ледорубы.

Я думаю, что те родители, которые из лучших побуждений отослали видео куда-то в Сети, поступили необдуманно, эмоционально. Эти кадры прежде всего должны были оказаться в компьютере у директора школы, у начальника районного или городского отдела образования, а не в массовом употреблении. Этот скандал, ставший достоянием общественности, нанес огромный урон авторитету всех учителей. И детям не помог – у них теперь, думаю, вообще в головах полная сумятица. Исподтишка снимать конфликты взрослых? Ну что ж, дорогие родители, готовьтесь, что однажды вы можете увидеть свои семейные ссоры в свободном доступе в интернете. «Это же чистая правда!» – ответит вам чадо. Как говорится, новые Павлики Морозовы наготове.

В общем, нет здесь правых. Нет. Рана нанесена всему обществу, потому что мы все учителя нашим детям. И только время могло заставить нас в тишине наедине с собой глубоко обдумать эту ситуацию.

И вдруг в конфликт вмешался президент. Ну, небеса разверзлись… И опять суд топором! Своей властью он приказал восстановить учителя Людмилу Ивановну Четверткову на работе. При этом наказал выговорами всю вертикаль от Румаса, Кочановой и Карпенко до чиновников гомельского горисполкома, а директора гомельской школы №15 вообще приказал перевести на другую работу – власть-то у президента Беларуси неограниченная. Слушайте, ну разве так делается? Всё эмоционально, всё с плеча, всё единолично! Как будто у нас не государство со всеми полагающимися институциями и законами, а единоличное хозяйство. Наверное, правильнее было бы дать поручение министру образования глубоко разобраться в конфликте. Для чего такая должность существует в правительстве? И еще нюанс: как такую высочайшую защиту теперь перенесет сам провинившийся учитель? Это ведь может просто поломать человеку нравственный хребет – ведь часть педагогов, конечно, не простит ей этого скандала, да просто возненавидит за всё случившееся.

Не знаю, как закончить свои заметки… Наверное, просто стоном: это мы, Господи! Ох, люди…

РЭГІЁН

# Пікет пад бел-чырвона-белым сцягам

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

## Без энтузіязму

Маладая пара, па ўсім відаць – студэнты, спыняецца каля пікета. Хлопец чытае інфармацыю на стэндзе, а дзяўчына ў акулярах разглядае партыйны сцяг АГП і гістарычны бел-чырвона-белы.

Цікавімся, ці ведае студэнтка, з якой нагоды пікет у людным месцы.

– Подпісы збіраюць, – здагадваецца дзяўчына, а на пытанне, дзеля чаго, – паціскае плячыма.

На дапамогу прыходзіць хлопец, гаворыць, што будуць парламенцкія выбары. Але навошта тыя подпісы і як афіцыйна называецца ў Беларусі парламент, згадаць не можа. Пытанне «Хто цяпер у вашай акрузе дэпутат?» наогул выклікае здзіўлены смех.

Уладзімір Няпомняшчых зазначае, што актыўнасць выбаршчыкаў невысокая. За першыя чатыры дні атрымаў 75 подпісаў.

– Людзі моцна расчараваны гэтымі выбарчымі кампаніямі. Бо на выніку яны не ўплываюць, як бы ні галасавалі. Праўда, былі тры выпадкі, калі гараджане сталі абараняць Лукашэнку, прачытаўшы патрабаванне пра яго сыход, – дадае вылучэнец ад АГП.

З іншага боку, ён не заўважае нейкай асаблівай актыўнасці на этапе збору подпісаў і ў асяродку апазіцыйных партый і рухаў.

## «З цэлым народам гутарку весці»

У рэгіёне сфарміравана 17 выбарчых акруг. Ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў маюць толькі чатыры сябры АГП – у Гомелі, Лельчыцах і Акцябрскім ды адзін – ад Беларускай партыі левых «Справядлівы свет». Не парупіліся ў гэтым накірунку нават зарэгістраваныя арганізацыі – Партыя БНФ, Беларуская партыя «Зялёныя», БСДГ, ЛДП.

Канечне, ёсць яшчэ магчымасць вылучыць сваіх прадстаўнікоў у якасці кандыдатаў у дэпутаты на партыйных форумах. Аднак месячны тэрмін, калі праз збор подпісаў можна «з цэлым народам гутарку весці», беспаваротна сплывае.

Падтрымлівае жывы дыялог у гэтым вакууме хіба толькі ініцыятыва старшыні БНК Міколы Статкевіча. Ён уваходзіць у групы падтрымкі шэрагу дэмакратычных вылучэнцаў па ўсёй краіне і ўжо выступіў на пікетах па зборы подпісаў у Гомелі, Калінкавічах, Мазыры. Ды так, што некаторыя штатныя ідэолагі на акладах запанікавалі: Статкевіч і «нацыяналісты з «Зубра» хочуць зрабіць, «як ва Украіне»!

Тым часам «наказныя» вылучэнцы ад улады ўсе без выключэння зарэгістравалі ініцыятыўныя групы – гэта чацвёра дэпутатаў папярэдняга склікання Палаты прадстаўнікоў, чыноўнікі выканкамаў, Саветаў, функцыянеры ад ідэалогіі і адукацыі. Па тысячы патрэбных подпісаў яны без праблем здадуць у выбарчыя камісіі, хоць дэпутацкія мандаты ў іх, як мне думаецца, і без таго ўжо ў кішэні.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
**Гомель.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Сцяпан СВЯТЛОЎ: «У Беларусь вяртацца пакуль не збіраюся…»

*21-гадовы беларускі блогер стаў аўтарам вельмі папулярнага Telegram-канала ў краіне.*

***Сцяпан Святлоў*** (прозвішча – творчы псеўданім. – **Аўт.**) – *сын былога спартыўнага каментатара Белтэлерадыёкампаніі, а зараз агляадальніка тэлеканала «Белсат» Аляксандра Пуцілы. Хлопец вучыцца ў адной з польскіх ВНУ, і менавіта ён з'яўляецца аўтарам папулярнага YouTube- і Telegram-канала NEXTA.*

– Яшчэ ў школе я захапіўся здымкай і мантажом відэаролікаў, якія неўзабаве стаў публікаваць на YouTube, – кажа Сцяпан. – У адзін цудоўны момант зразумеў, што ў мяне нешта атрымліваецца. Таму, калі паўстала пытанне аб выбары будучай прафесіі, варыянт разглядаўся толькі адзін.

У беларускія ВНУ паступаць мне было нецікава, таму абраў Сілезскі ўніверсітэт у польскім Катавіцэ, дзе была спецыяльнасць «Арганізацыя вытворчасці кінематаграфічнай і тэлевізійнай прадукцыі».

**– Зараз вучоба працягваецца?**

– Універсітэт ужо амаль скончыў: праз некалькі тыдняў, спадзяюся, адбудзецца абарона дыпломнай працы, пасля чаго я стану бакалаўрам. Потым планую год працаваць над сваімі праектамі і, калі яны канчаткова «ўстануць на ногі», хачу працягнуць навучанне ў магістратуры. Па-першае, гэта цікава. Па-другое, якасць выкладання ў Польшчы такая, што ад вучобы атрымліваеш задавальненне. Нарэшце, па-трэцяе, тэхналогіі ўвесь час развіваюцца і быць прафесіяналам значыць пастаянна засвойваць нешта новае.

**– Будзеце працаваць затым па спецыяльнасці?**

– Па спецыяльнасці я працую ўжо зараз – на тэлеканале «Белсат». І мне гэтая праца вельмі падабаецца. Вядома, цяпер шмат часу займаюць мае ўласныя праекты, але сыходзіць адтуль усё адно пакуль не планую, паколькі гэтая праца акрамя зарплаты прыносіць яшчэ і кайф.

**– Сцяпан, а з чаго пачыналася блогерства і колькі падпісчыкаў маеце зараз? Гэта больш захапленне ці праца, якая прыносіць прыбытак?**

– Адзін разумны чалавек казаў, што людзі дасягаюць шчасця толькі тады, калі захапленне становіцца іх працай. Атрымліваецца, што я даволі шчаслівы – у мяне менавіта такая сітуацыя.

А пачыналася ўсё з простага кліпа на песню «Выбару няма», якую мы з сябрамі запісалі перад так званымі прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі ў 2015 годзе. Тады ж была прыдумана і назва праекта – NEXTA. Я яшчэ планаваў бываць у краіне хоць бы на канікулах, таму адкрываць сваю асобу перад «кампетэнтнымі органамі» зусім не хацелася.

**– Дарэчы, чаму менавіта такая назва праекта?**

– Сэнс падвойны. Гэта і беларускае «нехта» – кожны, любы, і англійскае «nextA», што сімвалізуе наступнае пакаленне.

Музыкай займацца больш не атрымалася – усе сябры раз'ехаліся вучыцца ў розныя замежныя ўніверсітэты. А вось агляды падзей, якія адбываюцца ў краіне, раптам «стрэлілі». Папулярнасць пачала расці, але самы вялікі і, думаю, вырашальны ўзлёт здарыўся пасля таго, як у мой дом прыйшлі зператрусам міліцыя і прадстаўнікі Следчага камітэта. Хацелі прышыць крымінальны артыкул за абразу кіраўніка краіны…

Мне пашанцавала – гэта здарылася на наступны дзень пасля майго вяртання на вучобу ў Польшчу. А вось маці напалохалі. Затое пра гэты выпадак напісалі амаль усе беларускія СМІ, а ў майго канала на YouTube пачала хутка расці колькасць падпісчыкаў.

Другі вялікі плюс, за які я павінен падзякаваць праваахоўнікам, – гэта свабода творчасці. У Польшчы я перастаў займацца самацэнзурай і стрымлівацца ў ацэнках. Сатыра ў выданнях відэаблога стала больш жорсткай, а падпісчыкам гэта відавочна спадабалася.

Цяпер у мяне 270 тысяч падпісчыкаў на YouTube і 161 тысяча ў Telegram, 56 тысяч – у NEXTA Lite. Усяго, разам з іншымі сацсеткамі, думаю, набярэцца паўмільёна.

**– Наколькі складана блогеру манетызаваць сваю працу?**

– Першы час такое пытанне нават не ўзнікала: я проста працаваў у сваё задавальненне і не думаў пра грошы, паколькі стыпендыі і заробку на «Белсаце» цалкам хапала на сціплае жыццё ў Польшчы, бо патрэбы ў мяне вельмі невялікія.



Некаторая манетызацыя была ад самога сэрвісу YouTube, але гэта вельмі няшмат, каля 300 долараў у месяц. Акрамя таго, ёсць сур'ёзная праблема: як аказалася, цэнзурай захапляюцца не толькі беларускія ўлады, але і, здавалася б, прасунутыя амерыканскія карпарацыі.

Напрыклад, калі паказаць у відэаблогу разгон дэманстрантаў у беларускай сталіцы, то YouTube палічыць гэта «сцэнай гвалту» і заблакіруе нават такую сціплую манетызацыю.

Тое ж тычыцца і кантэнту, які я вымушаны часткова пазычаць у беларускіх дзяржаўных тэлеканалаў, бо на мерапрыемствах з удзелам Лукашэнкі яны з'яўляюцца манапалістамі. І вельмі любяць пісаць скаргі адміністрацыі YouTube, калі блогер пакажа хаця б некалькі секунд іх відэа ў фармаце цытаты.

**– А ці ёсць у вас рэкламадаўцы?**

– На YouTube ніякіх рэкламадаўцаў у мяне не было, няма і, хутчэй за ўсё, не будзе: буйныя карпарацыі не хочуць размяшчаць рэкламу ў кантэнце, звязаным з палітыкай. Ім патрэбна аўдыторыя, якая ні пра што не думае ды заўсёды настроена на пазітыўчык.

Таму, калі б я жыў толькі за кошт манетызацыі YouTube, даўно памёр бы ад голаду – толькі арэнда кватэры ў Варшаве каштуе не менш за 400 долараў.

На шчасце, калі колькасць падпісчыкаў пераваліла за 100 тысяч, у мяне з'явіліся ўласныя рэкламадаўцы – у першую чаргу ў Telegram-канале. Аднак рынак рэкламы ў гэтым месенджары даволі спецыфічны: велізарная частка рэкламадаўцаў займаецца незаконнай дзейнасцю. Гэта нелегальныя букмекеры, сутэнёры, прадаўцы наркотыкаў, адмывальнікі грошай, уладальнікі фінансавых пірамід, распаўсюджвальнікі пірацкіх праграм...

**– Якія спакушаюць грашовымі прапановамі?**

– Я прытрымліваюся жорсткага правіла: найперш – рэпутацыя канала. Таму рэкламу ў мяне можа размясціць толькі легальная кампанія, якая займаецца карысным для людзей бізнесам.

**– Ці можна сказаць, што вашай інфармацыі чытач можа давяраць на ўсе сто?**

– Памыляцца могуць нават глабальныя медыякарпарацыі з мільярднымі бюджэтамі. А я працую адзін, не маю ні тэхнічных, ні фінансавых магчымасцяў дасканала правяраць кожную коску.

Больш за 95 працэнтаў інфармацыі, якую я публікую ў Telegram-канале, пасля пацвярджаецца афіцыйнымі крыніцамі. Якія, хутчэй за ўсё, проста прамаўчалі б пра яе, калі б маіх публікацый не было. Ды і журналісты заўсёды могуць узяць і ўсё праверыць.

Магу сказаць, што ніводная публікацыя не застаецца без увагі ўлад. Часам даходзіць да таго, што людзі, якія даслалі інфармацыю, просяць выдаліць пост. Або звязваюцца непасрэдна героі публікацый. Аднак з канала нічога не выдаляецца. Я адказваю за свае словы.

**– Ці былі выпадкі, калі пападалі на фэйк і распаўсюджвалі затым яго?**

– Не без гэтага. Неяк з Брэста мне даслалі фота нібыта «службовага аўтамабіля» МААП – гэта такое падраздзяленне БРСМ па ахове правапарадку. І я яго апублікаваў. А потым аказалася, што нейкія аматары жартаў проста размалявалі звычайны аўтамабіль у «фоташопе». Трэба прызнаць, зрабілі гэта даволі прафесійна.

Гэта была першая і апошняя навіна, якую мне давялося выдаліць. Ну, хіба што за выключэннем яшчэ аднаго выпадку...

**– Разглядаеце варыянт вяртання на радзіму?**

– Пакуль у Беларусі не зменіцца ўлада, хутчэй за ўсё, не вярнуся.

Знайсці мяне і адпомсціць пагражаюць нават у Польшчы. Некалькі разоў на месяц прыходзяць паведамленні або каментары з такімі пагрозамі. Таму даводзіцца ўжываць мноства мер асабістай бяспекі.

Напрыклад, многія мне пішуць з просьбамі сустрэцца ў Варшаве. Маўляў, хочуць падзяліцца сваімі праблемамі. Адказваю: дасылайце ўсё, што ёсць, у Telegram. Не, хочуць асабіста. Але з такімі я не сустракаюся.

**– Што ў далейшых планах? Вы сказалі, што будзеце развіваць свой праект…**

– Планы ў мяне грандыёзныя. Не буду пра іх казаць, бо ў сучасным свеце ідэі таксама крадуць. Менавіта іх рэалізацыяй я і займуся адразу пасля атрымання дыплома бакалаўра – раней проста фізічна не было часу.

Але адну карту магу адкрыць. Зусім хутка на YouTube выйдзе мой першы поўнаметражны дакументальны фільм, які будзе прысвечаны Беларусі, яе гісторыі і сучаснасці. Праца ўжо амаль завершана…

**Алесь СІВЫ.**

АКЦЫЯ

## Ці вытрымае грамадскі транспарт?

Гродзенскія гарадскія ўлады прапануюць усім аўтаўладальнікам 22 верасня пакінуць свае машыны на стаянках і перасесці на грамадскі транспарт альбо ровары.

Беларусы далучыліся да сусветнай акцыі «Дзень без аўто» 20 гадоў таму. Гродна ўваходзіць у тройку самых аўтамабільных гарадоў Беларусі, а таму ўздзеянне аўтатранспарту на наваколле вельмі адчувальнае. Дарэчы, перабольшванне канцэнтрацыі фармальдэгідаў у гарадах фіксуецца менавіта на дарогах і набліжаных да іх тэрыторыях.

Гродзенскія ўлады прапанавалі аўтаўладальнікам хаця б на адзін дзень у год перасесці з уласных аўто на грамадскі транспарт. Праезд у гэты дзень будзе бясплатны, дастаткова толькі прад'явіць вадзіцельскае пасведчанне і тэхнічны пашпарт аўтамабіля.

Актывісты гродзенскага велаклуба ў сваю чаргу прапанавалі кіроўцам уласных аўто перасесці на ровары. Запланаваны роварны прабег на 14 кіламетраў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

СІМВАЛ ЖЫЦЦЯ

## Помнік хлебу

Прадпрыемства «Гроднахлебпрам» у гонар свайго 80-годдзя побач з заводскім будынкам адкрыла скульптурную кампазіцыю ў выглядзе хлебнага дрэва.

Адкрыццё было ўрачыстым, шматлюдным, цёплыя словы хлебу казалі гродзенскія чыноўнікі. Генеральны дырэктар прадпрыемства «Гроднахлебпрам» Віктар Леановіч нагадаў, што хлеб з'яўляецца сімвалам дабрабыту, і гэты помнік, маўляў, даніна памяці як хлебаробам, так і тым, хто яго пячэ.

«Хлебнае дрэва – падарунак усім гродзенцам ад нашага прадпрыемства, – сказаў Леановіч. – І сюды можа прыйсці кожны, каб проста пасядзець побач на лаўцы, падумаць, дакрануцца да хлеба».

Аўтар скульптурнай кампазіцыі гродзенскі каваль Юрась Мацко сказаў «Народнай Волі», што яго твор для выканання быў не з простых.

«Але сёння адчуваю задавальненне – усё ж прыемна, калі нейкія мае працы стаяць у горадзе, а не на прыватным падворку, – зазначыў мастак. – А хлеб – асаблівая тэма ў нашым жыцці, і добра, каб ён заўсёды быў на нашым стале».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ФОТАФАКТ

## Колькі працягнецца рэканструкцыя плошчы Перамогі?

Зараз сталічны манумент Перамогі часова закрыты для турыстаў. Падчас рэканструкцыі плануецца замяніць ніжнюю частку абеліска і правесці капітальны рамонт з мадэрнізацыяй манумента, падземнай пляцоўкі і пераходаў.

Навінкай стане электрападагрэў гранітнай пляцоўкі манумента, што зробіць большым тэрмін эксплуатацыі пліткі і парадуе наведвальнікаў у халодныя часы.

Абноўленую пляцоўку прадставяць да 75-годдзя Перамогі ў маі 2020 года.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**
*Фота аўтара.*



АЛЬТЭРНАТЫЎНАЯ ПАЗІЦЫЯ

# Мастак Мікола Бушчык думае, што толькі ён адзіны на Беларусі таленавіты і ўсе яго заціскаюць

У «Народнай Волі» за 10 верасня было апублікавана недвухсэнсоўнае выказванне члена Беларускага саюза мастакоў Мікалая Бушчыка, якое датычыцца пытання арганізацыі і правядзення персанальных выстаў беларускіх мастакоў у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.

Гэта выказванне («Пракапцоў, як маленькі князёк, аднаасобна вырашае, каго выстаўляць, каго не») супярэчыць як рэальнай акалічнасці справы, так і ўсялякім нормам этыкі.

Перш за ўсё хочацца сказаць, што план выставачнай дзейнасці абмяркоўваецца не кулуарна і не адным чалавекам, як вынікае з выказвання Мікалая Бушчыка. План выставачнай дзейнасці музея штогод зацвярджаецца на вучоным савеце, у склад якога акрамя музейных работнікаў уваходзяць прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага саюза мастакоў (Р.С.Сітніца), Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (народны мастак Беларусі У.Тоўсцік, заслужаны дзеяч мастацтваў У.Слабодчыкаў, У.Васюк), Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (В.Жук) і іншыя.

Пасяджэнне вучонага савета – гэта аб'ектыўны і празрысты працэс: агучваюцца ўсе заяўкі, і шляхам галасавання прымаецца рашэнне аб правядзенні той ці іншай выставы. Безумоўна, мы прызнаём і не ўтойваем той факт, што кожны год адмаўляем шэрагу мастакоў у правядзенні персанальных выстаў. Задаволіць заяўкі ўсіх (а ў Беларускім саюзе мастакоў больш за 1000 членаў) – гэта значыць паставіць Нацыянальны мастацкі музей на галерэйныя рэйкі і ператварыць найбуйнейшую мастацкую інстытуцыю ў чарговую выставачную залу.

Стратэгія выставачнай дзейнасці такога музея ўніверсальнага тыпу павінна быць сканцэнтравана перш за ўсё на прэзентацыі нашых найбагацейшых калекцый беларускага, рускага і замежнага мастацтва, асабліва ўлічваючы той факт, што ў пастаяннай экспазіцыі прадстаўлена толькі каля 10 працэнтаў нашага збору. Таму адной з галоўных мэт апошніх гадоў стала стварэнне буйных тэматычных выставачных праектаў, якія дэманструюць нашы фонды і аб'ядноўваюць нашы калекцыі, як, напрыклад, у 2016 г. – «Мастацтва суверэннай Беларусі»; у 2017 г. – «Горад. Архітэктура. Мы», прысвечаны 950-годдзю Мінска; у 2018 г. – «RELAX, або 5 практык расслаблення вачыма мастакоў», «Сучаснікі XX. Стагоддзе беларускага партрэта»; у 2019 г. – «Гульні. Игры. Games» (прысвечаны II Еўрапейскім гульням у Мінску) і многія іншыя. У рамках гэтых праектаў, дарэчы, заўсёды дэманструецца і творчасць сучасных беларускіх мастакоў, у тым ліку і Мікалая Бушчыка. Гэтыя выставы карыстаюцца вялікім попытам; пад кожны праект рыхтуецца сур'ёзная публічная праграма (лекцыі, экскурсіі ад куратараў, камунікатыўныя праграмы і т.п.). Важнай задачай у выставачнай дзейнасці музея з'яўляецца і правядзенне міжнародных выставачных праектаў, знаёмства беларусаў і гасцей сталіцы з мастакамі замежжа, асабліва калі гаворка ідзе пра самыя яскравыя імёны сусветнага мастацтва XX стагоддзя – Францыска Гою, Пабла Пікаса, Сальвадора Далі і іншых. Такія праекты карыстаюцца вялікай папулярнасцю, выклікаюць нязменную цікавасць і несумненна стаяць у прыярытэце нашай выставачнай дзейнасці. Скажам, удалы выставачны праект у 2017 годзе, прысвечаны І.Айвазоўскаму, па шматлікіх просьбах наведвальнікаў быў перафармаціраваны і паказаны зноў на 3 месяцы ў наступным, 2018-м, годзе ў іншым варыянце.

Таму экспазіцыйных памяшканняў для правядзення персанальных выстаў у нас катастрафічна не хапае, мы нават вымушаны здымаць пастаянныя музейныя экспазіцыі пад выставы сучасных мастакоў, што вельмі дрэнна адбіваецца на асветніцкай дзейнасці музея. Не варта забываць, што музей – гэта буйны адукацыйны цэнтр, які знаёміць наша маладое пакаленне з класікай беларускай мастацкай спадчыны!

Сёння ў горадзе Мінску даволі мастацкіх інстытуцый, якія спецыялізуюцца на правядзенні персанальных выстаў сучасных беларускіх мастакоў: Рэспубліканская мастацкая галерэя Беларускага саюза мастакоў, Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, выставачныя пляцоўкі Музея гісторыі горада Мінска, мастацкая галерэя «Універсітэт культуры», мастацкая галерэя Саюза мастакоў «Мастацтва» і г.д. Але жаданне экспанавацца каля класікаў беларускага і замежнага мастацтва пераважае. І з гэтым нічога нельга зрабіць. Таму мы і сутыкаемся з такімі некарэктнымі выказваннямі пакрыўджаных мастакоў, якія жадаюць выстаўляцца ў музеі ды яшчэ і замаўляць пэўныя плошчы і пэўныя месяцы (як правіла, вясна ці восень!) для экспанавання. Іх зусім не цікавіць, што ў музеі існуе план платных паслуг, даведзены Міністэрствам культуры, які музей павінен выконваць і здольны выканаць, толькі рэалізуючы буйныя выставачныя праекты, што і ва ўсім свеце з'яўляюцца рухавіком музейнай справы.

Мастак Мікола Бушчык думае, што толькі ён адзіны на Беларусі таленавіты і ўсе яго заціскаюць – Беларускі саюз мастакоў, кіраўніцтва Нацыянальнага мастацкага музея, кіраўніцтва Слонімскага раёна… Фактычна творы мастака, якія знаходзяцца ў калекцыі музея, практычна штогод экспануюцца як на выставах унутры музея, так і ў іншых музеях нашай краіны (2010 – «Зямля пад белымі крыламі»; 2012 – «Беларускі абстракцыянізм», «Прасторы вольныя зямлі»; 2016 – «Памяці Чарнобыля», «Мастацтва суверэннай Беларусі»). У розных музейных друкаваных выданнях-альбомах, календарах музей разам з творамі іншых мастакоў друкуе яго творы, што былі закуплены Міністэрствам культуры ў розныя часы, і Міколу Бушчыку няма ніякіх падстаў заносіць у тым ліку і кіраўніцтва музея ў свой «чорны спіс».

Вынік з вышэйсказанага: кіраўніцтва музея і музейныя супрацоўнікі ставяцца да творчасці Міколы Бушчыка з павагай, як і да іншых мастакоў, не падзяляючы на «сваіх» і «чужых».

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ,**
**генеральны дырэктар**
**Нацыянальнага мастацкага**
**музея Рэспублікі Беларусь.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## «Алена Анісім не апраўдала маіх чаканняў…»

*32-гадовы фермер **Юрый ІВАНОЎСКІ** патлумачыў «Народнай Волі», чаму ён вырашыў стаць дэпутатам*

У Стаўбцоўскай выбарчай акрузе зарэгістравана ініцыятыўная група кіраўніка фермерскай гаспадаркі «Пан Ежы» **Юрыя Іваноўскага**. У гэтай жа акрузе збірае подпісы, каб стаць дэпутатам другі раз, і старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы» **Алена Анісім.**

**– Фермер – гэта заўсёды вельмі заняты чалавек. Навошта вам дадатковыя клопаты з дэпутацтвам?** – запытаўся я ў Юрыя Іваноўскага.

– А чаму не? У мяне вышэйшая адукацыя, я скончыў факультэт міжнароднага права Інстытута правазнаўства. Ведаю некалькі замежных моў, двойчы абіраўся дэпутатам мясцовага Савета. У мяне ёсць пэўныя прапановы, якія, мяркую, былі б карыснымі для краіны.

Але ёсць яшчэ адзін момант. Калі ў нашым пасёлку Навакаласава ўзніклі калектыўныя праблемы і мы звярнуліся па дапамогу да нашага сённяшняга дэпутата Алены Анісім у пісьмовай і вуснай форме, то яна нас, можна сказаць, праігнаравала. Асабіста мае чаканні яна не апраўдала, таму я вырашыў сам пазмагацца за месца ў парламенце.

**– А з якімі праблемамі вы звярталіся?**

– У пасёлку адсутнічала дарога для пешаходаў, і гэтае пытанне нам дапамог вырашыць кіраўнік Мінскага аблвыканкама. З'ездзілі да яго на прыём – нам за паўгода і дарогу зрабілі, і двары добраўпарадкавалі. Аказваецца, усё можна зрабіць пры жаданні.

**– Але дэпутат Алена Анісім вам нават пры вялікім жаданні дарогу не пабудавала б. Не тыя паўнамоцтвы…**



Фота: pramen-news.by

– Мяркую, што маральна яна магла б нам дапамагчы. Пісаў ёй лісты, тэлефанаваў, а адказ быў такі: «Трымаем пытанне на кантролі». А калі запыталіся ў старшыні аблвыканкама, ці было нейкае садзейнічанне з боку Анісім, той сказаў, што пра гэта нават і не чуў.

Але не падумайце, што я зараз хачу нейкім чынам ачарніць працу Алены Мікалаеўны. Проста мяне як выбаршчыка не задавальняе яе дзейнасць.

Напрыклад, у парламенце была сустрэча прэзідэнта з дэпутатамі. Што хвалявала Алену Анісім? Калі не памыляюся, то ганаровая дошка нейкаму беларускаму дзеячу. Дошка – гэта добра, але няўжо няма больш актуальных і вострых пытанняў, якія можна наўпрост задаць кіраўніку краіны? Я задаў бы…

**– Як праходзіць збор подпісаў?**

– Нармальна, ужо амаль палову сабралі. У пасёлку мяне добра ведаюць, так што са зборам ніякіх праблем не ўзнікае. А вось калі збіралі подпісы ў гарадах – Нясвіжы і Стоўбцах, то там, натуральна, сумная карціна. Людзі не ўспрымаюць гэтую ўладу, не вераць у перамены і проста апускаюць вочы ды праходзяць міма. Хаця мы ўсе зараз павінны актывізавацца, каб адстойваць сваю незалежнасць.

Дарэчы, для сябе і ў жыцці, і ў выбарчай кампаніі я абраў дэвізам словы Кастуся Каліноўскага: «Каго любіш? Люблю Беларусь. То ўзаемна…» Хіба гэта сёння не актуальна для нас, улічваючы тое, што сёння ўсё больш кажуць пра інтэграцыю з Расіяй?

**– Юрый, раскажыце крыху пра вашу гаспадарку.**

– Да зямлі мяне прывучылі, калі быў яшчэ школьнікам, таму работы не баюся і не цураюся. Пасля інстытута давялося шмат дзе працаваць, нават на суровай Поўначы. Там крыху зарабіў грошай і вырашыў заняцца сваёй справай.

Пачынаў з таго, што ў Стаўбцоўскім раёне выкупіў будынак былой лазні вайсковай часці. Дастаткова вялікае памяшканне – 750 квадратных метраў. Арганізаваў там вытворчасць, адкрыў офіс.

Фермерская гаспадарка існуе ўжо восем гадоў, зараз у мяне 10 гектараў зямлі. Вырошчваю пекінскую капусту, гародніну, збіраюся выпускаць цукеркі на аснове натуральнага соку і без дабавак.

**– Ці складана сёння фермеру?**

– Гэта тэма для асобнай гаворкі, хаця, шчыра скажу, дзяржаўнай падтрымкі не заўсёды хапае. Неяк звярнуўся да старшыні мясцовай гаспадаркі з пытаннем, а той мне ў адказ: «Чаму я павінен табе дапамагаць?»

Крыўдна! Я такі ж беларус, як і ён, мы, здаецца, павінны рабіць агульную справу на карысць радзімы, але знаходзяцца тыя, хто ў нашым грамадстве людзей падзяляе на «сваіх» і «чужых». Гэта няправільна і так быць не павінна.

СЛОВА Ў АДКАЗ

## «Я не скандаліла ў парламенце і не трэсла кулакамі…»

*Старшыня ГА «Таварыства беларускай мовы» **Алена АНІСІМ**, якая спрабуе атрымаць дэпутацкі мандат у другі раз, распавяла пра свае шанцы і адказала фермеру, які ў акрузе будзе яе канкурэнтам.*

– У мяне зараз таксама збор подпісаў ідзе поўным ходам, – кажа Алена Мікалаеўна. – Тым больш кампанія прэтэндэнтаў сабралася дастаткова цікавая. Сярод маіх канкурэнтаў – начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў, малады юрыст, прадстаўнік «Гавары праўду», фермер…

**– Фермер Юрый Іваноўскі мае крыўду на вас, сцвярджае, што не дапамаглі ў вырашэнні мясцовых праблем у пасёлку Навакаласава.**

– Шчыра кажучы, я не разумею, за што на мяне крыўдзіцца. Так, мяне паставілі ў вядомасць пра праблемы ў пасёлку, але там было больш інфармаванне пра тое, якія захады мясцовыя жыхары робяць, каб сітуацыя змянілася.

А пра пабудову пешаходнай дарогі ў Навакаласава я неаднойчы размаўляла з намеснікам старшыні райвыканкама Аляксандрам Цывакам, які адказвае за гэтую сферу. Дык якія могуць быць крыўды?

У рэшце рэшт той жа Юрый Іваноўскі мог бы мне патэлефанаваць, прыехаць на сустрэчу, каб з вока на вока абмеркаваць усе праблемы. Я зрабіла б усё, што ў маёй кампетэнцыі. Неяк у аблвыканкаме мы з гэтым фермерам выпадкова сустрэліся і пазнаёміліся, ён даў мне сваю візітку – і на гэтым усё. Я разумею, што зараз мой канкурэнт вядзе палітычную гульню, але ж не трэба казаць, што яму нехта перашкаджаў нешта зрабіць.




**– Яшчэ ў асобных людзей ёсць прэтэнзіі да таго, што Алена Анісім у парламенце не задавала дастаткова вострых пытанняў. Маўляў, такая «ціхая апазіцыя» задавальняе ўладу. Як вы да гэтага ставіцеся?**

– У тых, хто так кажа, хацелася б запытацца: а што вы разумееце пад «вострымі пытаннямі»? Як мне падаецца, пытанне функцыянавання беларускай мовы як дзяржаўнай – адно з самых вострых. І няхай хтосьці паспрабуе ў гэтым накірунку хоць што-небудзь вырашыць. А мне хаця б удалося тое, што створана і працуе экспертная рада, якая будзе даваць сваё «дабро» на публікацыю заканадаўчых актаў на беларускай мове.

А што, пытанне пра ўвядзенне мараторыя на смяротнае пакаранне не актуальнае? Гэта пытанне рубам стаіць для таго, каб Беларусь стала сябрам Савета Еўропы.

Год таму я задавала пытанні прэм'ер-міністру і пра будаўніцтва акумулятарнага завода ў Брэсце, які ў выніку так і не адкрылі.

Гэта – не вострыя пытанні?! Так, я не скандаліла ў парламенце, не бегала па радах і не трэсла кулакамі. Не карысталася момантам, каб распаліць вакол сябе полымя і паказаць, якая тут супер-пупер. Але я задаю тыя пытанні, якія хвалююць вельмі шмат людзей. Мая місія ў парламенце – рабіць усё, каб беларуская мова была дзяржаўнай ва ўсіх сферах. У гэтым накірунку я і працую.

**– Як ацэньваеце свае шанцы на гэтых выбарах?**

– У першую чаргу ўсё будзе залежаць ад мяне і маёй каманды. З боку ўлад я не бачу вялікіх перашкод, таму не думаю, што ёсць нейкая ўстаноўка кагосьці блакіраваць. Магчыма, за кулісамі нешта і адбываецца, але я кажу толькі пра тое, што бачу сваімі вачыма.

**Алесь СІВЫ.**

ОТКРОВЕНИЕ

Наталья НОВОЖИЛОВА:

## «Я начинаю движение без истерики и переживаний»

*«Первая леди» белорусского фитнеса, телеведущая **Наталья Новожилова** баллотируется в депутаты. Как сообщает сайт администрации Фрунзенского района г.Минска, она зарегистрировала инициативную группу по сбору подписей за свое выдвижение.*



По этому же округу зарегистрирована еще одна телеведущая – «Мисс Беларусь – 2018» Мария Василевич, которой всего 22 года и которая несколько раз была замечена на фото рядом с Лукашенко. Интересно, как относится к молодой сопернице Наталья Николаевна?

– А мы не соперники, мы товарищи. Какая разница, кто попадет в парламент?

**– Ладно, не соперницы, но ведь точно конкурентки: вас двое, а место одно.**

– Депутатство для меня – не самоцель. У меня есть любимая работа, я состоявшийся профессионал и не грежу по ночам о депутатском кресле. Я ничего не имею против «Мисс Беларусь», я рада, что эта девушка такая целеустремленная.

**– Вы уже начали сбор подписей. Какие первые эмоции испытываете?**

– Признаюсь: когда собираю подписи, хожу по квартирам, вижу людей в халатах, тапочках, с домашними собаками и кошками, у меня появляются сомнения. Они меня узнают, смотрят мне прямо в глаза, и я понимаю, какое будет у них разочарование, если я вдруг не оправдаю их доверие: не потяну, не осилю… Понимаете, до сих пор моя фамилия всегда была связана с успехом, я выполняла все свои обещания, потому что всё зависело лично от меня. А здесь я вдруг очутилась на политической кухне, и это мой первый опыт.

**– Какой первый вопрос вы поднимете в Овальном зале, если вдруг станете депутатом?**

– Конечно, у меня есть своя программа, она касается здорового образа жизни и социальной политики государства. Завоевания советского государства в этом плане отдавать нельзя, их, наоборот, надо укреплять: бесплатные образование и медицина, бесплатные занятия в спортивных детских школах. Я за хорошую школьную программу и за возврат к экзаменам. Есть у меня мысли и по поводу поддержки пенсионеров, тем более я сама уже в этом возрасте. А вот большая политика – не моя сфера.

**– Но если вы станете депутатом, то и в нее придется окунутся.**

– Да… И я пока еще только учусь.

**– Я читала в одном из ваших интервью, что вы мечтаете освободить себя от руководства фитнес-клубом «Багира», для того чтобы сесть за написание книжки. Но теперь, если вы станете депутатом, книжка явно отодвинется.**

– Если честно, я мечтаю о ней последние лет пятнадцать. Действительно, ее идея, возможно, опять отодвинется, но я вообще-то такой энергичный человек, что могу делать много дел одновременно. Депутатство – это кропотливая интеллектуальная работа, а книга – эмоциональная. Так что я ничего не исключаю. Просто пока не нашла хорошего редактора для книги – человека, который помог бы мне изложить мою историю. Может быть, у меня откроется третье дыхание.

**– У вас точно откроется!**

– Мне один товарищ написал, комментируя мое желание идти в депутаты: молодец, впрыгнула в последний вагон! Я даже возмутилась: мне всего 64 года! В поезде под названием «жизнь» я еду где-то посерединке. А в серединке у нас что?

**– Буфет, вагон-ресторан?**

– Правильно! Так что я еще пью кофе перед важным переходом в следующие «вагоны». А то, понимаете, в последний вагон меня определили… А еще у меня ого-го сколько мыслей!

**– Например, о президентском сроке? Его, по-вашему, нужно строго ограничивать?**

– Если честно, я в эти темы пока еще не влезаю, я их изучаю. Решение баллотироваться я приняла недавно, и надо глубоко и серьезно изучить этот вопрос.

**– А какой у вас административный ресурс? На чью поддержку рассчитываете?**

– Я хотела самовыдвигаться, но поняла, что мне не хватит опыта. Я иду от «Говори правду». В общественной организации я знаю Татьяну Короткевич, дружу с ней, мы даже в выходные вместе бегали кросс…

**– Кстати, Татьяна заметно похудела и похорошела.**

– Да-да! Я прочитала программные документы «Говори правду», они мне понравились. Мне нравится, что ребята находятся в диалоге с государством и не зовут людей на баррикады, не требуют от своих сторонников жестких мер. В общем, мне сейчас предстоит серьезный путь, который надо пройти без ошибок. Я начинаю по нему движение без истерики и переживаний…

**Елена МОЛОЧКО.**

АСОБА

# «Волі да барацьбы і перамогі – вось чаго нам сёння бракуе»

*21 верасня нашаму сталаму аўтару, паэту **Васілю ЖУКОВІЧУ** споўніцца 80 гадоў. Пра свой сірочы лёс пры жывым бацьку, пра вышыванкі ў пашпартах і перастворaную ім па-беларуску знакамітую «Кацюшу» юбіляр расказаў у рэдакцыі «Народнай Волі».*

**– Васіль Аляксеевіч, вы нарадзіліся ў шматдзетнай сялянскай сям'і, у вас ажно сямёра сясцёр і братоў. Бацькам, відаць, цяжкавата было ўсіх паставіць на ногі?**

– Наш хутар Забалацце знаходзіўся непадалёк ад Белавежскай пушчы, цяпер гэта Камянецкі раён. Жылося сапраўды цяжка, час быў пасляваенны, не хапала прадуктаў, вопраткі, абутку. Помню, мы з сястрой хадзілі ў школу па чарзе – быў адзін на дваіх палітончык. Старэйшы брат пашыў мне чаравікі-дзеравяшкі – верх скураны, а падэшва драўляная, нягнуткая, хадзіць было нязручна (а да школы кіламетраў пяць). Дапамагаў выжыць лес, дзе мы збіралі грыбы і ягады для сябе і на продаж. Неяк усе выраслі, атрымалі адукацыю, сем'і займелі.

**– Вашу сям'ю не абмінулі сталінскія рэпрэсіі. За што трапілі ў лагеры ваш бацька і брат?**

– Бацьку ў 1944 годзе саслалі ў пасёлак Сухабязводнае Горкаўскай вобласці, дзе ён гарбаціўся на лесапавале. Асудзілі нізашто. Ён трохі ведаў нямецкую мову, жыў пад акупацыяй. І хтосьці напісаў данос, што бацька супрацоўнічаў з немцамі. Адбыўся суд, на якім не далі слова сведкам у абарону бацькі. Прысудзілі 5 гадоў. У вайну і пасля вайны чаго толькі не было!..

**– А з братам што здарылася?**

– У той час заходнебеларускую моладзь адпраўлялі на гэтак званыя ўсесаюзныя будоўлі. Хацелі адправіць і брата. А ў хаце маці хворая, я – малы школьнік. І брат сказаў: не паеду! Іншым нічога, а брату (сын «ворага народа»!) далі тры гады, якія ён адбываў у Хабараўскім краі.

**– Дык вы пры жывым бацьку раслі сіратой?**

– Так атрымалася, бо бацьку і пасля вызвалення не дазволілі жыць дома. Ён пасяліўся ў суседнім Жабінкаўскім раёне, будаваў хаты. Пражыў амаль 87 гадоў. Не любіў, як ён казаў, саветчыны. Чырвонаармейцаў, што прыйшлі на нашы землі ў 1939-м, называў галадранцамі.

**– А калі бацька змог вярнуцца ў сям'ю?**

– Ён так і не вярнуўся. Мама, якая была для мяне святлом і цяплом, памерла рана, у 1959-м. Калі я паступіў у Брэсцкі педінстытут, бацька мне трошкі дапамагаў, мы сустракаліся. Расказваў мне, што следчы прызнаваўся: Жуковіч, твая віна не даказана. Але ўгаворваў падпісацца папрацаваць год-другі: краіне не хапае рабочых рук. І даў падпісаць паперу... Ужо ў незалежнай Беларусі я звярнуўся ў Вярхоўны суд наконт бацькавай рэабілітацыі. Мне адказалі, што справа не падлягае перагляду.



З жонкай Верай пражыта 55 гадоў.

**– Вы равеснік гістарычнай падзеі – 80 гадоў таму адбылося ўз'яднанне ўсходняй і заходняй частак Беларусі. Да гэтай даты стаўленне ў нашым грамадстве неадназначнае. А вы неяк адзначаеце 17 верасня?**

– Не адзначаю. У Заходняй Беларусі быў вядомы такі праклён: «Каб цябе палякі захапілі, а саветы вызвалілі!» Ён пра многае гаворыць. Колькі людскіх лёсаў паламала за кароткі час перад вайною савецкая рэпрэсіўная машына! А колькі несправядлівасці, крыўды і гвалту зазналі заходнікі ў пасляваенны час! Дастаткова згадаць прымусовы згон у калгасы, што разбурылі сем'і, сцёрлі адвечныя звычаі, забіралі ў чалавека свабоду. Наша сям'я ў калгас не пайшла, за гэта ў нас забралі поле, лужок і лес, а на калгасным палетку забаранілі пасвіць жывёлу... Але няма ліха без дабра – аб'яднанне Беларусі ўсё ж адбылося. І гэта факт бясспрэчна станоўчы.

**– Нядаўна ў афіцыйным часопісе «Беларуская думка» быў апублікаваны артыкул-інструкцыя для ўсёй уладнай вертыкалі, дзе гаворыцца, што тэма сталінскіх рэпрэсій у нас празмерна раздзьмутая, пажадана яе мінімізаваць. Як вы ўспрымаеце такую ўстаноўку ўлады?**

– Мяне гэта проста абурае! Як можна маскіраваць тыя крывавыя падзеі, той разгул рэпрэсій?! Столькі бязвінных людзей было вынішчана – пісьменнікаў, навукоўцаў, святароў! Толькі сляпы і глухі можа складаць падобныя «інструкцыі». Толькі сляпы і глухі мог дазволіць пад Мінскам нейкую «Лінію Сталіна». Чаго добрага, яшчэ і помнік вернуць на Кастрычніцкую плошчу.

**– Сярод жадаючых трапіць у новы парламент ёсць нейкая Мірсалімава, якая якраз і заклікае аднавіць помнік Сталіну ў цэнтры Мінска.**

– Жах які! Зрэшты, не выпадае здзіўляцца – адкрылі ж помнік Дзяржынскаму ў Гродне (я чытаў вашу калонку ў «Народнай Волі» – «ФЭ на пастаменце»). Усё ж спадзяюся, што сталіністы ў заканадаўчую ўладу не пройдуць.

**– А вы на выбары пойдзеце? Хто па вашай акрузе збіраецца вылучацца, ведаеце?**

– Пакуль не ведаю, але на выбары пайду. Як казаў яшчэ за савецкім часам мой універсітэцкі настаўнік Уладзімір Калеснік, галасаваць трэба не за партыйцаў ці за беспартыйных, а за тых, хто за Беларусь, хто вядзе сваю кампанію па-беларуску. Без мовы мы не народ, а паўмёртвае, паслухмянае насельніцтва. А насельніцтву, як чарадзе авечак, корму падкінь – і паганяй куды захочаш.

**– Вы згадалі прафесара Калесніка, для Брэста гэта асоба знакавая. А ці ўшанавана ў горадзе памяць вашага настаўніка?**

– Ёсць вуліца яго імя. Але, на жаль, не там, дзе ён жыў, дзе працаваў. Там на шыльдах – імёны Крупскай і Чапаева. Хто такая Крупская? Якое дачыненне яна мае да Брэста? І мой родны ўніверсітэт дагэтуль носіць чужое імя. Хоць неадназова выказвалася думка надаць імя Калесніка ўніверсітэту – ён жа там усё жыццё працаваў, кафедру ўзначальваў. Гэта было б справядліва, па-людску. Калеснік быў навукоўцам еўрапейскага маштабу, вельмі глыбокім мысляром. Пачытайце хоць бы яго працы пра Скарыну.

**– Да вашага юбілею выйшла кніга «Бязмежжа памяці», героі якой – Янка Брыль, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Генрых Далідовіч, Міхаіл Фінберг, Яўгенія Янішчыц і – незабыўная Ніна Мацяш, з якой вы доўгі час сябравалі. Трыццаць гадоў яна правяла ў інвалідным вазку і заўсёды была ўзорам чалавечай шляхотнасці і мужнасці. Вы можаце патлумачыць, адкуль такая моц духу?**

– Феномен Ніны Мацяш нам яшчэ спасцігаць і спасцігаць. Прыроджаная сялянская працавітасць і неадступная прага ведаў дапамаглі ёй стаць асобай, якіх у нашай гісторыі адзінкі. Многія яе радкі гучаць проста афарыстычна: *«Гасподзь схіляецца да ўсіх, / ды ніцых духам ён не чуе»*. А якую пранікнёную «Калыханку маме» яна стварыла! Сама па волі лёсу не займеўшы сваёй сям'і. Гэты сум па жаночым шчасці, відавочна, і паспрыяў з'яўленню на свет яе далікатна-пяшчотнай і глыбокай лірыкі.

**– У 42 гады вы пайшлі на вольны хлеб – з пасады намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва «Юнацтва». Потым не шкадавалі?**

– Не шкадаваў, бо галоўнае для пісьменніка – свабода. Пісьменнік не павінен камусьці служыць, апрача слова. Тады, у 1980-я гады, можна было зарабіць на жыццё творчасцю. Добрай падтрымкай было бюро прапаганды беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў. А па лініі таварыства кнігалюбаў з кампазітарам Эдуардам Зарыцкім і спеваком Яраславам Еўдакімавым мы з выступленнямі аб'ездзілі амаль усю Беларусь. І, прызнаюся, добра зараблялі. Пры савецкім гэтак званым рэжыме. А сёння пісьменнікі хто вартаўніком працуе, хто грузчыкам у супермаркеце...

**– А жонка, калі вы сыходзілі ў вольнае плаванне, не пярэчыла?**

– Спачатку перажывала, а потым супакоілася, пабачыла, што з голаду не памром. Жоначку маю завуць Вера, але яна для мяне і вера, і надзея, і любоў. Мы разам ажно 55 гадоў! Бывала, і спрачаліся, і сварыліся, але хутка мірыліся. У мяне і верш пра гэта ёсць (дзякуючы Уладзіміру Будніку ён стаў песняй): *«Наплыла на сонца хмарка / знекуль нечаканая. / Божа мой, узнікла сварка / у мяне з каханаю...»* Песню гэту Леанід Нікольскі і сёння выконвае. На знак удзячнасці жоначцы свой наступны зборнік я так і назваў – «Вера».

**– Сёння назіраецца мода на беларускія вышыванкі – і міністры іх носяць, і моладзь. Вы ж пачалі насіць вышываную кашулю адным з першых. Памятаеце сваю першую вышыванку?**

– А як жа! Помню, у 1978 годзе зайшоў у краму, а там – уцэнкі. Гляджу – вышыванка, каштавала 25 рублёў, а прадаецца за 15! Я, вядома ж, купіў. Потым пазнаёміўся з майстрыхай Верай Казловай з-пад Оршы. Яна мне дзве кашулі вышыла – васількамі. На фота ў пашпарце я таксама ў вышыванцы. Графы «нацыянальнасць» там не стала, то хай хоць па адзенні будзе бачна, што ўладальнік пашпарта – беларус.

**– Ваш пашпарт я паказаў бы аўтарам «Берасцейскага слоўніка», які гадоў дзесяць таму выйшаў у Львове. Там напісана, што «місто Кам'янець захоплено ВКЛ», а паэт Васіль Жуковіч – «білорусіфікатор українского Полісся».**

– Забіцца венікам – «білорусіфікатор Полісся»... У тым сэнсе, што Палессе – украінскае? Глупства несусветнае! Некалі Мікола Шэляговіч намагаўся стварыць граматыку палескай мовы. Нічога ў яго не выйшла. Так, на Брэстчыне ледзь не ў кожнай вёсцы свая гаворка. І тыя гаворкі надзіва жывучыя, яны не баяцца нават русіфікацыі, якая паўзе па нашай зямлі. Скажам, у адным сяле кажуць «кот», у другім – «кіт», у трэцім – «кыт». Усё гэта – дыялекты беларускай мовы, для мяне гэта ясна, як божы дзень.

**– Вы згадалі сваё даўняе супрацоўніцтва з кампазітарам Буднікам. А сёння песні пішуцца?**

– Песні пішуцца, але сучасныя кампазітары пішуць пераважна на заказ выканаўцаў. Я і сёння над адным тэкстам карпею – па просьбе ксяндза-пробашча Уладзіслава Завальнюка мы з кіраўніцай Саюза кампазітараў Аленай Атрашкевіч (я з ёй даўно супрацоўнічаю) павінны напісаць гімн пчалярам. Бо ў наступным годзе ў нашай краіне мяркуецца правесці міжнародны кангрэс пчаляроў.

**– У нас жа і паэты-пчаляры ёсць. І Мядовая прэмія – для паэтаў Брэстчыны.**

– Так, яе заснаваў паэт і пчаляр Мікола Папека. Выдатная прэмія – вядро мёду!

**– Ведаю, што вы перакладаеце рускія шлягеры на беларускую мову. Атрымліваецца?**

– Калі мне Міхаіл Фінберг прапанаваў перакласці «Кацюшу», я спачатку аднекваўся. Тая «Кацюша» нам усім праела вушы, ці ж трэба яе перакладаць? Але Міхаіл Якаўлевіч праявіў настойлівасць, і я здаўся. Вось што ў выніку атрымалася: *«Расцвіталі яблыні і грушы, / над ракою плыў туман густы. / Выбягала юная Кацюша / на высокі бераг на крутым. / Выбягала, песню запявала / пра байца – адважнага арла, / пра таго, каторага кахала / і чые ўсе пісьмы берагла...»*

**– Па-мойму, спяваецца.**

– Асабліва пад аркестр Фінберга! Яго салісты «Кацюшу» па-беларуску шмат дзе выконвалі. Да іх я пераклаў яшчэ «Пісьмо з 45-га» і «Цёмную ноч» – Аляксандр Сакалоў (выхаванец Алены Атрашкевіч) спявае.

**– Ваша дачка Яўгенія працуе ў Драмтэатры Беларускай Арміі і зрэдку здымаецца ў кіно. Вы сочыце за яе поспехамі?**

– Стараюся бываць на прэм'ерах. Калі рэжысёр Аляксандра Бутар здымала працяг фільма «Белыя Росы», яна запрасіла зняцца і Жэню. Здымкі праходзілі ў розных месцах, у тым ліку і ў нашай кватэры. Менавіта ў нас здымаліся эпізоды з удзелам знакамітага Мікалая Карачанцава. Гэта былі яго адзіныя кіназдымкі пасля аварыі. Мы пазнаёміліся, пагаварылі, ён, дарэчы, нармальна ўспрымаў маю беларускую мову. На развітанне я яму сваю кніжку падарыў і дыск з песнямі «Імклівая рака».

**– Вы шматразовы чэмпіён Саюза беларускіх пісьменнікаў па шахматах. Турнір штогод прымяркоўваецца да Дня Волі 25 сакавіка. Можа, пісьменнікам у гэты дзень чым-небудзь іншым лепш было б заняцца?**

– Калі быў маладзейшы, я рэгулярна хадзіў на мітынгі. А цяпер куды пойдзеш? Для мяне шахматы – гэта спорт, які выхоўвае волю да барацьбы і перамогі, чаго нам, беларусам, яўна бракуе. За шахматнай дошкай у свой час я перамагаў нават сямiразовага чэмпіёна Беларусі Уладзіміра Сайгіна. Праўда, на сеансе адначасовай гульні.

**– У вашым Камянецкім раёне ёсць вёска, якая называецца незвычайна – Радасць. Што ў 80 гадоў радуе паэта Васіля Жуковіча?**

– Мне радасна, калі трапляю ў асяродкі, дзе гучыць беларуская песня, беларуская паэзія. Скажам, у Белаазёрску, дзе штогод ладзіцца фестываль «Бабіна лета з Нінай Мацяш». Ці ў Іванаве – Янаве Палескім, дзе спеўныя сустрэчы ладзіць мой сябра кампазітар Валянцін Перапёлкін-Кісялёў. Каб жа такіх мясцін у Беларусі большала! Жыў бы і я тады ў радасці – як мае землякі з прыгаданай вамі вёскі.

**Міхась СКОБЛА.**

РЕЗОНАНС

## Слезы текли рекой...

Здравствуйте, уважаемая редакция! Мне 68 лет. Первый раз я ревел, читая повесть Бориса Васильева «А зори здесь тихие...». Было это в 1974 году: вечером, после работы, взял в руки книгу – и не закрыл ее до утра, пока всю не прочел... Слезы текли рекой...

И вот опять все повторилось после прочтения в двух номерах «Народной Воли» «Песни без слов» Валентина Перепёлкина-Киселёва.

Сильно!!!

Спасибо!

**Александр ИЛЛАРИОНОВ.**
**Брест.**

ШЧЫРА

## Кранаюць душу...

Добры дзень, дарагая рэдакцыя!

Хачу падзяліцца сваімі думкамі. Прачытала ў часопісе «Лідскі летапісец» (№1 за 2019 год) артыкул Віктара Кудлы, колішняга выпускніка Ганчарскай сярэдняй школы. У ім ён прыводзіць радкі з паэмы Аркадзя Курыса «Роздум». Шкада, што ў «Лідскага летапісца» маленькі тыраж. А «Народную Волю» чытаюць ва ўсіх куточках Беларусі. І добра было б, калі б на яе старонках з'явіліся вось гэтыя радкі:

Дадаць было б зусім не кепска
Пра нашу мову колькі слоў.
Былі даследванні ЮНЕСКА
Пра мілагучнасць многіх моў.
І той камісіі выснова
Нам права гонару дала:
Другое месца наша мова
У тых іспытах заняла.
А італьянская на першым,
На ёй прыемна размаўляць
І, як на нашай, зручна вершы
І песні добрыя складаць.
Тым, хто не дружыць
з мовай роднай,
Я нагадаю факт такі,
Што наша мова міжнароднай
Была ў сярэднія вякі.
Не верце выдумкам маскоўскім,
Што наша мова для сяла,
Ў Вялікім Княжастве Літоўскім
Яна дзяржаўнаю была.
І што б яны там ні казалі
(Яны ж не могуць без маны),
Не мы ж у іх культуру бралі,
А бралі,кралі ў нас яны.
Даўно, аж трэцяе стагоддзе,
Супроць яе ідзе вайна.
Але жыве яна ў народзе,
І будзе вечна жыць яна.
А тыя, хто дабра не зычыць
Майму народу, зноў і зноў
Нягоднай мову нашу лічаць.
Адкуль такая нелюбоў?
Што так упарта намагае
Іх нашу мову задушыць?
Яна ім, можа, замінае
На белым свеце добра жыць?
У гэтым крыецца нагода,
Бо свет даўно ўжо прызнае,
Што мова ёсць душа народа,
Якую Бог яму дае.
Таму прамая тут выгода
Ім нашу мову руйнаваць:
Няма душы – няма народа,
Лягчэй натоўпам кіраваць.
Ва ўсе часы, ва ўсіх народаў,
Плямёнам, ўзятым у палон,
Каб знішчыць дух іх назаўсёды
Быў іхняй мове забарон.

Пагадзіцеся, кранаюць душу гэтыя радкі з паэмы Аркадзя Курыса «Роздум».

**Яўгенія Барысаўна КУЛЕВІЧ, былая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Замосцьеўскай васьмігадовай школы Смаргонскага раёна.**

ПАМЯЦЬ

## Каму праўда вочы коле?

Шаноўная рэдакцыя маёй (нашай) любімай газеты «Народная Воля»!

Піша вам былая настаўніца (мне 99 гадоў) Ніна Дзмітрыеўна Царашонак-Самухіна, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, вязень гестапа, вязень ГУЛАГа, ветэран працы. З вялікім нецярпеннем чакаю кожны нумар газеты, і так з першага дня яе выхаду.

Апошнія публікацыі пра нашу гісторыю надзвычай цікавыя. Вось і я вырашыла пра тое-сёе расказаць, хоць мае дзеці, унукі і праўнукі многае ад мяне ўжо чулі.

У 1939 годзе, прыехаўшы з вёскі, я паступіла ў Магілёўскі педтэхнікум. Жыла на кватэры ў добрай знаёмай Рывы Майсееўны. Мяне паставілі на ўлік, і я атрымлівала 500 грамаў хлеба – па картачцы. Усё астатняе (бульбу, кавалачак сала, нейкія крупы) – ад мамы. Нечакана на вуліцах Магілёва з'явіліся незнаёмыя па адзенні і гутарцы людзі, у асноўным жанчыны. Потым яны некуды зніклі.

Ад мамы я даведалася, што ў нашу вёску прыслалі польскіх яўрэяў. Сярод іх была маладая пара з дзіцем на руках. Пасялілі сям'ю ў закінутую хату. Мама, як даведалася, стала ім дапамагаць. Карціна была страшная. Маладая маці страціла розум, муж кідаўся ратаваць жонку, а дзіця ўжо мёртвае. Жанчына не дае пахаваць. Крычыць і прыціскае да грудзей: не дам!..

Помню і тое, як мы, студэнты, з радасцю абжывалі аўдыторыі. Раптам загад: тэрмінова вынесці з памяшканняў сталы, лаўкі і замест іх паставіць ложкі, бо на станцыю «Магілёў-2» прыбыў эшалон з савецка-фінляндскага фронту з раненымі чырвонаармейцамі і іх трэба размясціць. Некаторыя былі без рук, без ног, абмарожаныя.

Потым пачалася Вялікая Айчынная вайна. Колькі выпрабаванняў прынесла яна людзям! Затым – аднаўленне краіны.

За сваё жыццё я многа пабачыла і перажыла. Чытаючы «Народную Волю», думаю: чаму яшчэ ёсць людзі, якім праўда вочы коле? Ці ж вінаваты гісторыкі, якія адкрываюць усё новыя і новыя трагічныя старонкі мінулага?

З вялікай павагай да ўсіх супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Народная Воля» –

**Ніна Дзмітрыеўна ЦЕРАШОНАК-САМУХІНА.**
**Аграгарадок Валкалата Докшыцкага раёна.**

ВЗГЛЯД

## Партий много, а толку?

В настоящее время в Министерстве юстиции Республики Беларусь зарегистрировано 15 политических партий. Еще четыре начинают свою жизнь в статусе оргкомитетов.

Вот партии, поддерживающие политику президента А.Г.Лукашенко: Коммунистическая партия Беларуси, Республиканская партия труда и справедливости, Республиканская партия Беларуси, Белорусская аграрная, Белорусская социал-спортивная, Белорусская патриотическая, Социал-демократическая партия Народного Согласия. Не поддерживают политику президента А.Г.Лукашенко: Белорусская партия левых «Справедливый мир», Белорусская партия «Зеленые», Объединенная гражданская партия, Партия БНФ, Консервативно-Христианская Партия – БНФ, Белорусская социал-демократическая партия (Грамада), Белорусская социал-демократическая Громада. Либерально-демократическая партия скорее поддерживает нынешние власти, но с какими-то оговорками.

Кроме политических партий в стране существуют 11 общественных движений: «Говори правду», «За Свободу», «Белая Русь» и другие.

Как говорится, списочный состав тех, кто призван влиять на развитие общественно-политических процессов в стране, большой. А спросите у первых десяти-двадцати прохожих, что они знают о тех же партиях, вряд ли услышите содержательный ответ. А если поинтересуетесь, какая, скажем, разница между ними, то многие респонденты вообще войдут в состояние ступора. Даже политологам трудно уловить различия, например, в программах Белорусской социал-демократической Громады и Белорусской социал-демократической партии (Грамада). Заметьте, и названия их почти не отличаются.

Формирование политических партий в Беларуси пришлось на период системного общественного кризиса конца 1880-х – начала 1990-х годов. Значит, большинству из них уже не меньше четверти века. Времени прошло немало, а смогли ли они за этот срок привлечь на свою сторону широкие слои населения? Нет, не смогли. И вина в этом, на мой взгляд, не столько властей, сколько самих партий, их лидеров. Вместо конкретной организационной работы с людьми они все эти годы дружно имитировали какую-то бесплодную деятельность. А поэтому не стали привлекательными для широких народных масс.

Мое предложение: чтобы поднять авторитет партий, должно произойти их объединение хотя бы по идейным направлениям. Пусть в стране будут четыре партии, но сильные. С лидерами, которые достойны самого большого уважения со стороны миллионов людей.

Я считаю, что государству не нужно загонять партии в угол, а, наоборот, нужно способствовать их развитию. В цивилизованных странах они имеют финансовую поддержку, это должно быть и у нас. Но начинать следует с внесения изменений в Избирательный кодекс. Выборы должны проходить не только по мажоритарной системе, но также и по партийным спискам.

Словом, ситуация, которая сложилась в стране с функционированием политических партий, как и общественных движений, не может устраивать ни электорат, ни власти. Придать им новое дыхание – веление времени.

**Александр ДУБОВИК, кандидат экономических наук, доцент.**

